Яўген Гучок

# БЛАКІТНЫЯ ЧМЯЛІ

(паэма дзяцінства)

МІНСК
«ЮНАЦТВА»
1983

*Для сярэдняга і старэйшага школьнага ўзросту*

**Гучок Я.**

Г97 Блакітныя чмялі: (Паэма дзяцінства). [Для сярэд. і ст. школ. узросту].— Мн.: Юнацтва, 1983.— 40 с., іл.

5 к.

Аўтар расказвае пра ўнутраны свет хлопчыка Максіма, пра яго ўспрыманне навакольнага жыцця.

ББК 84 Бел 7
Бел 2

Г $\frac{4803010200-077}{М307(05)-83}$ 20—82

Рэкі дзяцінства —
Самыя глыбокія,
Дрэвы дзяцінства —
Самыя высокія.
Нівы дзяцінства —
Самыя шырокія,
Сцежкі дзяцінства —
Самыя далёкія.
Ночы дзяцінства —
Самыя кароткія,
Сны дзяцінства —
Самыя салодкія,
Крыўды дзяцінства —
Самыя слязлівыя,
Забавы дзяцінства —
Самыя смяшлівыя...

Васіль Зуёнак

* * *

Як з дна ракі гарлачыкі, ціха і непрыкметна падымаюцца з памяці сэрца і душы залатыя часы дзяцінства.

* * *

Кожны куточак краіны дзяцінства, калі б яе апяваў бессмяротны Гамер, натхняў бы паэта на паэму не менш захапляючую, чым «Іліяда» ці «Адысея», бо краіна гэта мяжуе з сонцам і зоркамі, Млечным Шляхам, кветкамі, птушкамі і травамі.

* * *

Позіркі мае ў дзяцінства, быццам на сонца,— непрацяглыя, амаль вокамгненныя. А таму партрэт — няпоўны, здымак — аматарскі.

* * *

Дзіцячае жыццё, душа — бы крылы стракозы — тонкія, звонкія і празрыстыя... Крылы, што лунаюць і пырхаюць ад зары да зары над сцежкамі і ярамі, над дарогамі і ракой, над хатамі і дварамі, над садамі і агародамі... Часам ад успамінаў аб дзіцячай пары далёкай раптам адчую, як прашумяць нада мной тыя крылы напятым ветразем. І таму, калі мне бывае цяжка, я ў думках хапаюся за тыя крылы — і лячу, і лунаю, і зноў радуюся жыццю.

* * *

Якога толькі колеру не бывае неба! Такога ж колеру бываюць і людскія вочы. А калі дакладней — колер людскіх вачэй і колер неба — аднолькавыя.

* * *

Вочы мае з далёкіх тых гадоў былі зусім іншыя, чым цяпер. То была пара вялікіх блакітных чмялёў. Усё, да чаго дакраналіся тыя чмялі, здавалася, пачынала звінець. Вось і цяпер, варта толькі заплюшчыцца і ўявіць сябе ў тым незваротным свеце, як у вушах пачуецца блакітны звон.

* * *

Чаму гэта ў дзяцінстве мне было добра заўсёды? Відаць, таму, што гара і сутарэнне, дах і плот, узгорак і нізіна, сцежка і канава, па якіх я лазіў і бегаў, набліжаліся да неба. А мо-

жа, таму, што яны былі мною, што пра сябе я тады не думаў?

* * *

Калі ўваходзіць або ўязджаць з усходу ў наш горад, то адразу ж за дзедавай хатай, а дакладней, з дзедавай хаты, і пачынаецца горад з яго наступным шматпавярхоўем, заводзікамі, фабрыкамі, мітуснёй.

Калі ж выходзіць або выязджаць з горада ў тым жа напрамку — адразу ж за хатай ляжыць бясконцае, летам у травах і кветках, зімой засыпанае снегам, поле. А там — ні канца ні краю. Якое шчасце жыць на мяжы цішыні і шуму, прасторы і цеснаты!

Неба!.. Яго над намі распасціралася так многа, як, бадай, нідзе.

* * *

А дзе ж пачынаецца яно, неба? Там, над каронамі векавых дрэваў, над хмарамі, ля падножжа зорак і сонца?! Не. Яно і тут, на зямлі, дзе бегаюць мурашкі, у жытле чмяля. Яно ў кожнай душы чалавечай. І калі ты гэта адчуеш — ты нібыта дакранешся да яго рукой. Яно ўсюды: у траве, у паветры — у любой рэчы свету.

* * *

Гукі неба... Для мяне яны і як пошум жыта жнівеньскім днём, калі, бывае, лягу на ўзмежку, так, каб над галавой — толькі каласы, блакіт і амаль нерухомы ветрык.

2 Зак. 3204

* * *

Што робіць неба з зямлёй!

Яно адбірае дно ў ручаін і рэчак і высцілае на глыбіні імклівую бездань то воблакамі, то сінню, што паміж імі, а то і проста адным сонцам — удзень, а ўначы — зоркамі і месяцам...

Бывае такое, як толькі лёд сыдзе.

* * *

Памятаю, нёс я дадому, каб выратаваць, падбітага нейкім злым чалавекам бусла. Быў я тады падлеткам, і птушка здавалася мне вельмі цяжкай... Я ледзь данёс яе. І ці не з таго часу, абы толькі ўбачу, няхай нават у сне, гэтага птаха ў родным небе — у мяне заўсёды лёгка на душы.

* * *

Цікава, а за гэтым небам ці ёсць яшчэ другое неба? І, можа, не адно?!

* * *

Хто гэта за чалавек, што раней за ўсіх устае і пазней, чым усе, спаць кладзецца, у каго больш, чым у другіх, клопатаў і хатніх і іншых?!

Чалавек гэты — бабуля.

* * *

Ах, бабуля! Гэта ўсё ты імкнулася ўсяляць у маю душу, што сонца з кожным днём —

больш залацістае, вада — больш празрыстая, трава — больш зялёная, а людзі — дабрэйшыя.

Ці ж зведала ўсё гэта ты сама?..

* * *

Бабуля мая, Настуля Тодараўна, заўсёды хацела, каб наўкол усе людзі былі добрыя. Ад сваёй радні яна гэтага патрабавала і кожнага, як магла, старалася накіраваць па гэтым шляху.

* * *

Даць імя свайму новаму ўнуку бабка лічыла найпершым клопатам. Так і я стаў Максімам. І не толькі ў гонар бацькі, колькі з-за пяшчотнай бабчынай любові да вершаў аднаго з выдатных лірычных паэтаў свету, з-за любові і павагі да чалавека, які напісаў іх, чалавека нялёгкага лёсу нават пасля сваёй смерці.

* * *

Была бабуля не дужа набожная. Таму, відаць, падораныя ў дзень яе вяселля іконы «Іверскай Божай Маці» і «Госпада нашага Саваофа» яна не паставіла на покуці, не павесіла на сцяне, а паклала ў куфар. Не раз я дапытваўся, чаму гэта гасподзь бог, з якога б боку на яго ні глянуў, заўсёды пазірае на мяне сярдзіта і пагрозліва. «Не пужайся, любы мой, гэта ўсё на паперы. А каб ты яго не гнявіў і ён цябе не палохаў, мы яго зноў схаваем. А там, глядзіш, падабрэе»,— адказвала бабка. І ціхая ўсмешка, як раптоўнае сонца

з-за хмары, азарала яе твар. А мне было спакайней і нібы цяплей ад гэтага сонца. Затым яна клала ікону на дно куфра і, быццам папраўляючы сябе, дадавала: «Што табе той бог, будзь ты сам не плох». І цалавала мяне.

* * *

Баліць мяцёлцы, калі яе не ставяць акуратна ў куточак пасля таго, як падмятуць падлогу, а нядбайна і няўдзячна кідаюць абы-куды.

Калі выліць зімой вядро вады на голую, не пакрытую снегам зямлю — дык зямлі баліць, ды і самой вадзе баліць.

Пра гэта мне гаварыла бабуля. А цяпер мне і самому так думаецца.

* * *

За ўсё люблю цябе, бабуля, а асабліва за навуку — нікому ніколі нідзе не наравіць, нікога ніколі нідзе не баяцца, чым бы мне гэта ні пагражала.

* * *

Яна любіла адгадваць, а яшчэ больш загадваць загадкі. Памятаю, на абед бабуля падала нам з дзедам капусты. І тут жа запытала, а ці не бачылі мы часам, каб на адзін жаўток ды два бялкі было. Я здзіўлена паціснуў плячыма, дапытліва паглядзеў на дзеда, а той на мяне. Усміхнуўся. Што азначала: зноў загадка!

— Бачыў, бачыў! — закрычаў я.— Два жаўткі ў адным яйку...

— То ў яйку два жаўткі. А вось каб не ў яйку, ды два бялкі?

— Так не бывае!

— Магу паказаць. Хочаш?

І бабуля паказала. Па два разы зачарпнула яна лыжкай смятаны з паўлітровага слоіка і паклала ў капусту спачатку мне, потым дзеду. На залацістай паверхні капусты ў кожнай талерцы закрасавалася па два бялкі.

Мы з дзедам зарагаталі і ўзяліся есці капусту.

* * *

Свайго другога ўнука, а майго стрыечнага брата Віцю, якому карцела «пахадзіць на галаве», бабуля прыструньвала вельмі лёгка. Напаўсур'ёзна, напаўжартаўліва яна гаварыла яму: «Няма жыцця цераз цябе, Віця. Вось вазьму і памру. Праўда, толькі для цябе памру, а для Максіма буду жыць».

І Віця, і я гэтыя словы, як і ўсе словы бабулі, прынялі сур'ёзна, хаця ўявіць такое, каб адначасова жыць для аднаго і памерці для другога, мы не маглі.

Віця сціхамірваўся. Яму рабілася горка і балюча. Я адчуваў, як і ў мяне да горла падкочваўся даўкі камяк. І мы пачыналі прасіць бабулю жыць для нас абодвух доўга-доўга, мы абяцалі, што нічога дрэннага Віця рабіць больш не будзе. Бабуля ўздыхала, гаварыла: «Ну што з вамі зробіш?..» І мы былі рады, мы ведалі, што згодна была жыць яна і для Віці.

* * *

Першай кніжкай, што запомнілася мне, было «Слова аб палку Ігаравым». Я тады яшчэ

не ўмеў чытаць — я толькі гладзіў замшавую вокладку ды разглядаў каляровыя малюнкі, асцярожна адгортваючы папяросную паперу, якая накрывала іх. Малюнкі былі вялікія, як кніга, якая, калі разгарнуць, займала амаль увесь дзедаў стол. Асабліва мне быў даспадобы малюнак, на якім было мноства добрых вояў. Пасля я даведаўся, што гэта славянская дружына. Здавалася, што воі гэтыя могуць добраахвотна расступіцца і ўзяць мяне пад ахову ад маіх крыўдзіцеляў.

* * *

«Небажыхар мой маленькі... Птушачка ты мая, залатушачка ты мая. Жаваранaчак ты мой... Птушанятка маё...» — у адчаі прыгаворвала бабуля, трымаючы ў далонях птушаня, камячок жыцця нябеснага, што вывалілася са шпакоўні.

Дарэчы, усіх на свеце птушанят яна называла «жаваранaчкамі».

* * *

Зніклі нашы шпакі. Пакінулі свой утульны домік, што мы з дзедам будавалі. Няма ў іх цяпер птушаняці...

Шпакоўня без шпака — што вока без зрэнкі.

* * *

— Ты кажаш, што неба кожную хвіліну дорыць зямлі бессмяротнасць. Якая тут бессмя-

ротнасць, калі вось хутка пачне заходзіць сонца. А затым — адна цёмная ноч.

— Так, так. Цёмная ноч. А ў ёй вышыня і безліч зорак...

* * *

Гледзячы неяк на вячэрнія мігатлівыя зоры, бабка сказала: «Якое там мігцяць! Яны танцуюць, як дзеці. Я сама, калі была дзяўчынкай, сапраўды гэтак танцавала».

* * *

Бабуля заўсёды жадала, каб я быў «крылатым», і, як магла, яна абуджала ўва мне гэтае пачуццё. Большасць яе казак былі пра палёты. Сны яе пра мяне, як і мае сны, таксама былі звязаны з палётамі над зямлёй. І ці не таму часта ў пару бабінага (чаму не бабулінага?) лета мне здаецца, што побач з павуцінай плывуць мае дзіцячыя думкі, а сам сябе бачу я на дарозе.

* * *

Усё гэта агромністае бясконцае неба перавесілася цераз асеннюю павуцінку. А яна ж такая тонкая, як твае валасы, бабулька...

* * *

Пад нагамі і вакол мяне, як і нада мной, такое мноства месяцавага і зоркавага святла, быццам льецца яно не толькі з вышыні нябеснай, а і з глыбіні зямлі ідзе. І здаецца — ці гэ-

та на самай справе так? — што я не стаю, не іду, а лунаю паміж гэтымі двума залатымі бяздоннямі.

* * *

Матуля мне ўспамінаецца разам з труной, у якой яна ляжала.

Два дні ў пакоі сярод людзей, што плакалі і галасілі, стаяла нібы азярцо. Вада ў ім была ружовая. Гэта была вопратка мамы-нябожчыцы. За ружовай вадой ляжала цьмянае сонца. То быў яе твар. А вянчалі ўсё гэта два счэпленыя жоўта-белыя гарлачыкі. То былі маміны рукі.

О, калі б можна было адсунуць памяць у той «даазярцовы» час!

* * *

Часта чую я, чую — адчуваю: ходзіць матуля мая каля мяне, ходзіць нябачна, ходзіць асцярожна, ходзіць... як калісьці, калі быў я яшчэ маленькі... І чую я, як крокі яе агароджваюць мяне, адганяюць усялякія нягоды і навалы.

* * *

Калі ранішняе летняе сонца пачынала займаць верхні кут акна ў маім пакоі, працягвалася чыясьці рука зашморгнуць фіранку.

Нібыта мяккая хмурынка, цень ад гэтай рукі прабягаў па маім твары. Вось-вось я павінен быў прачнуцца, але атрымлівалася наадварот: я засынаў яшчэ мацней.

Белая фіранка на маім акне, а за ёй блакітнае неба...

Яшчэ памятаю белы падаконнік і рукі з букетам валошак над ім.

Пазней бабуля расказвала, што ў маёй мамы была белая блузка-матроска і што мама любіла кветкі...

* * *

Колькі рук у маці? Дзве? Незлічоная колькасць іх — клапатлівых, усюдыісных, нястомных. Іх столькі, колькі ўсіх дзяцей на зямлі... Іх столькі, колькі сцяблінак на жытнёвым полі, жытнёвых сцяблінак, што ахоўваюць блакітны цуд — валошкі.

* * *

Ты і сонца, і хлеб, мама!

Нібы ў сне, але, здаецца, было. Я тады яшчэ не жыў у дзядулі.

Цяжкія гады ваеннага ліхалецця... Ты пайшла за хлебам. Мяне не ўзяла. Што малы быў яшчэ — нічога, але нешта захварэў я тады. І вось я адзін; сяджу дома і чакаю цябе. Прайшла ўжо не адна гадзіна. А цябе няма. Я ўсё выбягаю на вуліцу, што цягнецца ў заходнім напрамку, і гляджу ўдалячынь, ці не ідзеш сярод другіх людзей Ты. Не, няма. Вось сонца ўжо садзіцца, пачынае цямнець. І вось... я адразу пазнаю — гэта Ты! Ты! Мая матуля; з хлебам для мяне.

У канцы вуліцы неяк адразу пасвятлела...

Ты — і сонца, і хлеб, мама!

3 Зак. 3204

* * *

І яшчэ ўспамінаецца: рукі твае перасаджваюць на лучыне з грубкі трапяткі агеньчык у газоўку, і нараджаецца святло, не... больш чым святло — хатняе сонейка.

* * *

Кім і чым толькі не страшаць дзяцей?! А вось матуляй ніколі.

* * *

Як неба ад зямлі, так матуля вачэй сваіх ад нас не адводзіць.

* * *

Мне часта здаецца, што воблакі бываюць падсвечаны не толькі сонцам, але і імем тваім, мама, і ў такія хвіліны я адчуваю сябе то лотаццю, то рамонкам, то квітнеючым садам, то стракатым лугам.

* * *

Сэрца тваё, чалавеча, абаронена не толькі груднойклеткай, але і ціхімі пяшчотнымі думкамі маці...

* * *

Бацьку свайго не памятаю — не бачыў, аднолькава як і ён мяне. Я яшчэ не паспеў нарадзіцца, калі яго забрала вайна.

* * *

Дзед мой Ілля Лук'янавіч душою, а часам і паводзінамі — як гэта ні дзіўна, быў нібы падабенствам сваіх унукаў. Нашы паводзіны іншы раз давалі падставу для пяшчотнага, дабрадушнага бабчынага выслоўя: «Што Ілюк, што ўнук — аднолькава».

* * *

Запаўняючы ўсялякія анкеты, карткі, лісткі, што патрабуюць звестак аб нараджэнні, дзед заўсёды бурчаў: «Калі!.. Дзе!.. Мы ж самі не выбіраем. Калі б гэта ад нас залежала! — і дадаваў, быццам звяртаўся да некага нябачнага, але прысутнага тут: — Нарадзіцца... нарадзіцца!.. Мала нарадзіцца — нядрэнна было б і спатрэбіцца!..»

* * *

Яшчэ адна дзедава гаворка: «Калі б я складаў падручнік па геаграфіі, я не паведамляў бы, колькі на тэрыторыі адной дзяржавы можа змясціцца другіх дзяржаў. Лепш за ўсё расказаць, колькі шчаслівых і незалежных, добрых і разумных людзей жыве на тэрыторыі гэтай умяшчальнай дзяржавы».

* * *

Адна «цацка» рупіла мне незвычайна... Гэта быў кулачок са спіральнага самацэнтруючага патрона да такарнага станка. Кулачок адразу ўявіўся мне трактарам. Пазы, што ўні-

зе, нагадвалі гусеніцы. Вось толькі адна неадпаведнасць: у майго «трактара» — дзве «кабіны», і размешчаны яны адна на адной. Гэта рабіла вынайдзены мной трактар падобным на прыступкі нашага ганка, а радасць маю няпоўнай.

Я папрасіў дзядулю спілаваць другую, меншую кабіну.

— У цеснаце, ды не ў крыўдзе. Не аднаму ж табе ездзіць. Пасадзі наверх меншых дзяцей, а сам садзіся ў ніжнюю кабіну і ары сабе,— сказаў дзядуля.

Так я і зрабіў, так і застаўся з двухпавярховым трактарам. Араў я, вядома, у думках, седзячы пасярод двара на пяску. Атрымлівалася нядрэнна. Да таго ж было весела.

* * *

Вячэрняе сонца падоўжвае цені. Больш таго, насцілаючы іх адзін на адзін, сонца накрывае імі зямлю. Калі вакол не заставалася ніводнага не пакрытага ценем месца, я ведаў, што і мне ўжо пара ісці дамоў, што мяне чакае бабуля.

* * *

Дабрадушна буркоча дзядуля: «Калі пакінуць чаравікі бруднымі, яны могуць задыхнуцца — ім цяжка дыхаць! З-за цябе!»

* * *

Асаблівым святлом свецяцца сонечныя мясціны на траве, на бульбоўніку, на кветніках,

на хмызняках. Але, на думку дзеда, самыя светлыя мясціны, нават калі сонца і няма ў небе,— гэта людзі, якія апрацоўваюць зямлю.

* * *

Незабудкі, рамонкі, валошкі, званочкі... Быць сярод іх — велізарная асалода.

Аднойчы з'явілася ў мяне жаданне мець іх у сябе ля хаты, каля ганка. Асцярожна выразаў я сцізорыкам адну кветку разам з зямлёй і прынёс дамоў. Пасадзіў, даглядаў, паліваў. Але кветка пачала вянуць. Спачатку падумалася, што прынёс мала зямлі для яе. Таму, калі пайшоў зноў у поле, то ўзяў рыдлёўку і выкапаў другую кветку з ладнымі акрайкамі зямлі вакол кораня. Але і з другой кветкай адбылося тое ж — яна звяла, загінула. «Кветка загінула таму, што яна адна»,— вырашыў я. У наступны раз прынёс іх адразу тры. І рассадзіў уздоўж плота. Але не прыняліся і яны.

Чаму?

Дзед адказаў. Можа, трохі па-вучонаму,— я і не зразумеў тады,— але, відаць, блізка да праўды: «Кожнай планідзе — свая арбіта, кожнай зеляніне — свая зямля... А на зямлі сваёй яны жывуць па сваіх асаблівых законах і не выносяць аніякага ўмяшання. Яны павінны знаходзіцца адна ад адной на пэўнай адлегласці... Гэта значыць, што на іх дзейнічаюць законы прыцягнення адной да другой».

* * *

Летуценнік і выдумшчык, я ніяк не мог уявіць, што мяне магло і не быць на свеце аль-

бо што я мог быць, але толькі кім-небудзь іншым ды яшчэ ў іншым месцы, у іншай сям'і... Не... Без бабулі і дзядулі, без сваякоў, сяброў і прыяцеляў — такое немагчыма. Калі ж я ўсё-такі ўпарта спрабаваў у думках ухапіцца за гэта — пачынала трымцець душа, сэрца абрывалася, думкі абрываліся некуды ў невядомасць, што аж рабілася жахліва. Але тут жа яны вярталіся назад у рэальнасць. І тады прыходзіла палёгка, бо я — зноў быў я, і ўсё заставалася на сваіх месцах.

З самых дарагіх, каго ўжо не было, я лёгка ўяўляў бацьку і маці. І былі яны самымі прыгожымі і самымі добрымі.

* * *

Калі пайсці ўздоўж па вуліцы да цэнтра нашага гарадка, то трапіш да двух-, трох-, чатырох- і пяціпавярховых будынкаў, латкоў з марожаным, што стаяць пры іх, кінатэатра, парку. Далей — базар. Ён ужо амаль у горадзе-вёсцы. Бо дамы, што акружаюць базарную плошчу, амаль нічым не адрозніваюцца ад цяперашніх вясковых... І зноў бяжыць вуліца аж да чыгуначнага пераезда, а за ім — прастора, якой ні канца ні краю, і дарогі — ва ўсе бакі. Ідзі, едзь, каці праз палі і рэкі, лугі і лясы да велізарных гарадоў, а ў іх — здавалася — і твая мара.

* * *

Наўрад ці ў сне можна ўбачыць столькі людзей, машын, танкаў і гармат, колькі я бачыў

іх летам 1945 года. Было іх так многа, быццам сюды яны сабраліся з усёй зямлі.

Колы машын і гусеніцы танкаў разбілі ўсю вуліцу, і яна нагадвала шырокую, без пачатку і канца ў даўжыню, канаву ці старое рэчышча.

Цэлы дзень з самай раніцы разам з дзядулем і бабуляй, якія непрыкметна выціралі слёзы (іх сын, а мой бацька, ужо не мог аддзяліцца ад гэтых калон і ступіць да нас, бо загінуў), глядзеў я на гэту язду-шэсце. Позна вечарам, напаўсоннага, мяне здымалі з плота і вялі ў дом спаць, а войскі ўсё ішлі і ішлі.

Ранкам я пытаўся:

— Ідуць?

— Ідуць,— адказвала бабуля.

І яны ўсё ішлі і ішлі...

* * *

Штосьці жудаснае ўсялялі ў маю душу напаўразбураныя і абгарэлыя ад вайны дамы. Адначасова яны абуджалі да сябе трывожную цікавасць.

Такіх дамоў у нашым горадзе было шмат. Увесь час, пакуль іх не адбудавалі, не аднавілі, жыло ўва мне пачуццё, што яшчэ не зусім адышла з нашай зямлі, што яшчэ хаваецца ў гэтых дамах вайна... Вайна, якая забрала ў мяне бацьку.

* * *

Я амаль ніколі не адчуваў сябе адзінокім, нават тады, калі ў хаце доўга нікога не было.

Дзядуля — на працы, бабуля — у чарзе па хлеб, я — прачнуўся. Адзін. Замкнёны...

Яшчэ бліжэйшымі мне істотамі робяцца сабакі і кошкі, хоць назіраю я за імі праз акно.

Я з усімі размаўляю, спяваю ім свае дзіцячыя песні.

* * *

Наша грубка ўмела смяяцца.

А паназіраць гэта можна было, калі яе запальвалі і калі яна гарэла.

У ніжняй частцы дзверцаў было сем ці восем невялікіх дзірачак. Былі яны для таго, каб праз іх праходзіла паветра да агню і дапамагала яму, каб можна было паглядзець, як гарыць у печцы.

Калі там гарэла, здавалася, што грубка смяецца. Вясёлы, рухомы агонь быў відзён праз дзірачкі. А калі яшчэ патушыць у пакоі святло, дык гэты агонь-смех весела гойсаў па супрацьлеглай ад печкі сцяне, пранізваючы і разганяючы сваім смехам цемру.

Да таго ж у самой грубцы весела гуло.

* * *

Усе велізарныя дамы з асветленымі рознакаляровымі вокнамі нагадваюць вечарам застылыя феерверкі. І адначасова святло кожнага акна — жывое. Вось тушаць яго ў пакоі, і святло быццам падае на падлогу. А калі ўключаць электрычнасць, яно з падлогі — скок на падаконнік і гарыць у акне.

* * *

Памятаю: будавалі ў нашым горадзе новую школу. Пад'ёмны кран (бачыў яго не на ма-

люнку ўпершыню) падаваў будаўнікам і цэглу, і раствор, і дошкі, здавалася, прама з неба... Гэта ж я так быў захоплены будаўнічым відовішчам! Ці не таму, відаць, і цяпер школа тая — самы ўражлівы будынак? Прынамсі, для мяне.

* * *

Я любіў высокія дамы, але больш за ўсё мне падабалася быць у полі: там над табой — толькі неба і птушыны спеў.

* * *

У горадзе майго дзяцінства, а дакладней, уздоўж горада цячэ рэчка, у якой я вучыўся з сябрамі плаваць і пра якую, на жаль, часам забываюся. А яна, пэўна, памятае нас! Нам, малым, хацелася верыць, што яна раскажа пра нас другой, вялікай рацэ, а тая — мору, а мора — надхмар'ю, а надхмар'е кропляй дажджу — усёй зямлі. І яшчэ мы верылі, што рэчка раскажа пра нас зоркам, і тыя на працягу ўсяго нашага жыцця будуць углядацца ў нас.

* * *

Не менш цікава, чым над кніжкай, цікава было схіліцца над ракой і ляжаць, і назіраць адбітыя ў ёй неба, сонца, воблакі... Не болей як маленькай хмурынкай, што лунае ў сіні, бачыў я сябе ў гэтай вадзе.

* * *

Выйду з рэчкі, а на мне — безліч кропель. І ў кожнай з іх — па небу, па сонцу ды па хму-

рынцы. Вось пабег я па беразе — і пасыпалася на зямлю мноства нябёсаў, сонцаў і хмурынак. Паспрабуй падлічыць, колькі іх у траву ўпала!

* * *

Рэкі дзяцінства чыстыя і празрыстыя, бо яны напоўнены расой. А раса тая не халодная, не ледзяная, і нічога ў ёй не дранцвее, не застывае.

* * *

Надыходзіць вясна з яе звонкімі капяжамі...

Растае на даху снег, а пад дахам ледзяшы. Вільгаць, што збіраецца на галінках дрэў, ператвараецца ў кроплі. І стукаюць тыя кроплі аб тратуар, аб калена вадасцёкавай трубы, аб шалёўку. Стукаюць — перастукваюцца: кап-кап-кап, кап... Стукаюць — адклікаюцца ў маім сэрцы, стукаюць — зрываюць мяне з ложка. І лятаю я ў сне высока над зямлёй...

Ах, вясна-капежніца!

* * *

Ізноў вясна... Ізноў такі незвычайны дзень... Радасць наўкол — і ў небе, і на зямлі. Нават снег, снег, які памірае, і той зззяе і іскрыцца нейкай відавочнай рызыкоўнай радасцю.

* * *

Ты толькі прыгледзься — і ўбачыш: вось-вось, нібы крыламі птушка, замахае аканіцай

акно ў бездань сіні, што вісіць над неабсяжнаю прасторай, што вісіць над галавой.

І ўсё гэта вясна, усё яна, яна — падбухторшчыца.

* * *

Празрыстая лужынка... А з самага краю, насупраць беластволага дрэўца, адбіваецца ў ёй веснавое сонца... Усё тут, бы бярозка сподачак паставіла, а сонейка, як кацяня, хлебча з яго.

* * *

Сакавік. На галінках вербаў — маленькія коцікі, якія толькі-толькі з'явіліся. Магчыма, таму, што кветачкі гэтыя яшчэ не развіліся,— нагадваюць яны кропелькі жаўтаватай расы, калі яе падсвечвае сонца.

* * *

Як падаюць на зямлю веснавыя дажджы... Аж прачынаецца зямля і з яе выглядае трава — бясконцае зялёнае неба, па якім ты ідзеш басанож, ідзеш лёгка, нібы ў цябе за спіной крылы...

* * *

Якая неабсяжная прастора... Але як лёгка сябе адчуваеш тут, што гатоў і сам узляцець, нібы гэта птушка, што пырхнула з-пад куста.

* * *

У полі, калі прыслухацца, зямля пад зіхоткім сонцам спявае. А песня гэта атрымліваецца таму, што камячкі глебы то развальваюцца, то зліпаюцца, то вільгаць паміж імі знікае, то зноў збіраецца, каб прабегчы непрыкметным раўчуком...

Жыве зямля! Слухаю яе, не наслухаюся.

* * *

Зоркі, відаць, падаюць яшчэ і таму, што яна прыгожая, яна — зямля наша родная. Зоркі, відаць, цягнуцца да яе.

* * *

Дзе, як не на радзіме, зямля і неба так набліжаны адно да аднаго, што ты адчуваеш сябе жыхаром Зямлі і Неба адначасова!

* * *

Скрыначка, бляшаначка, шкельца, каменьчык, гусінае пяро (ці не яно пяро жар-птушкі?), цвік і шмат яшчэ чаго — усё, што можна было падняць на дарозе, на вуліцы,— былі мае скарбы. Лёгка я іх знаходзіў, лёгка губляў. Знайшоў шпільку — рады, нібыта неба да зямлі прышпіліць ёю змагу. Згубіў — ну і што?! Няхай будуць расшпілены і зямля і неба, быццам крыссе маёй паддзёвачкі.

* * *

Майскія хмурынкі ва ўсходняй частцы неба — лёгкія і светлыя, быццам па іх узыходзі-

ла, не, не ўзыходзіла, а ўзбягала зіхатлівае сонца.

* * *

Майскім ветраным днём толькі ўзыду на прыгорак, і заспявае на мне мая блакітная вельняная кашуля. Так, так, заспявае. Ці то вецер на ёй грае, ці то душа мая, сузіраючы неабсяжныя прасторы роднага краю, ад хвалявання датыкнецца да яе?!

* * *

Ціхі, нетаропкі, як наша рэчка, вецер нёс зялёную хмурынку і зачапіўся ёю за дрэва; і заняла галінкі, і разлягласся на іх з таго часу гэтая хмурынка.

Ах, першае лісце бярозы!

* * *

Кроны дрэў — бы зялёныя воблакі... Я доўга не толькі пазіраў на іх, але, здаецца, і лазіў па гэтых воблаках.

Кветкі, якія стракацелі на лугах,— бы зоркі. Толькі былі тыя зоркі ўнізе, пада мной. А сярод іх — і мігатлівыя, якія часам уздымаліся вышэй, чым я.

Гэта былі матылькі.

* * *

Як расхіствае вецер траву ў полі — быццам некуды хоча яе сагнаць. Але трава не кранаецца з месца, яна застаецца на сваім полі, яна яшчэ мацней трымаецца за зямлю... Яна хоча ўпрыгожваць сваё роднае поле.



Сусед наш Іван Васільевіч — самадзейны мастак, а для нас, дзяцей, проста дзядзя Ваня-мастак. Вясной і летам і ў цёплыя асеннія дні, калі маляваў свае карціны ў невялікай верандзе, дзверы з яе на вуліцу былі заўсёды адчынены. Рабілася больш раскошна і светла. А на заўвагу, што дзверы адчынены насцеж, ён, усміхаючыся, казаў: «Хай мая майстэрня за кошт Сусвету ці Сусвет за кошт маёй майстэрні павялічваюцца».



Рамана Антонавіча ў нас у завулку называлі паэтам.

Памятаю, сядзіць ён, бывала, утароплены над аркушам паперы, варухнецца адно толькі, каб нешта запісаць. «Эх ты, дзядзька!» — думаю-шкадую я, а сам бяру кавалачак люстэрка і лаўлю ў небе сонечны зайчык і цераз вуліцу вокамгнення кідаю яму ў акно. Раман Антонавіч схамянецца, гляне на двор і замрэ ў бездапаможнай паставе, а потым неяк раптоўна ажыве і, здаецца, чакае яшчэ. Ну, я і яшчэ кіну, і яшчэ. Бачу: усмешка ў яго на твары. А потым ён знікае на імгненне. І вось Раман Антонавіч адчыняе сваё акно і велікаватым люстрам пачынае шукаць мяне. Шукае такімі ж самымі, праўда, крыху большымі, чым у мяне, зіхатлівымі зайчыкамі. Знаходзіць. Дакладней, мы знаходзімся. І ўжо нашы зайчыкі бегаюць адзін за адным па завулку: па платах, па дахах, па лаўках, па дрэвах, па зямлі.



Колькі колераў, колькі святла, колькі радасці ў кроплях расы, што павіслі на лісцях дрэў, хмызоў і траве! Працягні асцярожна руку — і любая расінка пяшчотна і ціха перасядзе табе на далонь. Ды і лісцік любы аддасць табе яе лёгка.

Хочаш астудзіць шчаку ці лоб — падстаў.



Ссякаюць дрэвы — спусташаюць нават неба. Асабліва гэта адчуваецца дома, у родным краі.



О, які я шчаслівы! Ужо хаця б таму, што калісь, у дзяцінстве, не зламаў ніводнага дрэва, не разбурыў ніводнага гнязда, не знішчыў ніводнай жывой істоты.



Сама па сабе вада — прыгожая, ды яна яшчэ і чужую прыгажосць адлюстроўвае. А ў краіне дзяцінства, адкуль усе мы, вада — усім водам вада.

У паслядажджжавой лужыне пад зыркім сонцам яна — нібыта жывое срэбра. З цёмнымі прожылкамі на дне. А я разбягаюся, разганяюся і, прытупваючы,— прама ў яе. Вада як бы расступаецца, а сама адначасова ахінае мяне пырскамі...

Ах, як здорава! Давай яшчэ разок прамчым!

* * *

Што гэта за трапятанне, што гэта за шамаценне чуецца ў час перадсвітальны за акном? Гэта ўжо не спяць дрэвы, мае таполі,— яны чакаюць сонца.

* * *

Які цудоўны, нічым і нікім не крануты дождж... Здаецца, толькі выйдзеш на яго, дакладней, увойдзеш у яго, і зробіш яму перашкоду...

* * *

За акном не ўседзіш, пад дахам не ўстаіш у дождж такі. Хочацца бегаць па двары, па лузе — хай ліецца на цябе гэта пяшчотнае жывое серабро. І хочацца яшчэ, каб падала яно з усяго неба і на ўсёй зямлі аднолькава. І ўсё таму, што адна толькі пацеха ад яго, як ад тых сварак, што, здаралася, былі паміж маімі дзядулем і бабуляй.

* * *

Прыпарная раніца. Выходжу на двор. Усё наўкола заліта сонечным святлом: і агародчык, і дрэвы, і дахі дамоў ... Акрамя сонечнага святла, нічога не існуе. А ў ім — птушыны спеў. Але птушак не відаць. Адкуль жа даносяцца іх песні? Ці не з сонца ўжо? Ці не з яго праменнямі ляціць сюды гэта чылілікание, перасвістванне, пашчоўкванне?



Як лёгка ўбачыць крыштальны самалёт. Трэба толькі паглядзець на просты самалёт, што пралятае высока-высока.

У светлым небе, дзе ўсім сваім шклом і металам ён убірае гуллівае святло, знойдзеш яго не адразу. А знойдзеш — аж заколе ў вочы!

Сама лепш назіраць, калі сонца ці ўзыходзіць, ці заходзіць.



Узнесеныя над травой сцяблінкамі, як падобны да зорак сваімі чырвонымі і жоўтымі, блакітнымі і фіялетавымі галоўкамі кветкі! І думаецца, што ў здзіўленні перад прыгажосцю травы зорачкі гэтыя не ўпалі ў яе, а павіслі над ёй.



Утапіўся Гена П.

Я стаяў у разгубленасці сярод мноства людзей на беразе, і мне здавалася, што Гена не ўтапіўся, а што яго ўхапіла рака і панесла кудысьці далёка і будзе доўга там трымаць у патаемнасці. Верылася: калі-небудзь здарыцца такое і ён аднойчы з'явіцца сярод нас, ужо дарослых, учарашнім, сённяшнім — жывым.

Калі ж, нарэшце, з вады дасталі мёртвае цела, рака ў адзін момант здалася мне іншай — жорсткай, бязлітаснай, безнадзейнай... А ў тым месцы, дзе ўтапіўся Гена, яна сама была як мёртвая. Вада тут быццам і не плыла, нікуды не імкнулася — нібы сама спалохалася.

Колькі прайшло часу, а я і сёння памятаю тую мёртвую ваду.

* * *

Такое здараецца ў дні, калі ўсё неба абкладзена цёмнымі, у некалькі слаёў напластаванымі хмарамі. Глядзіш, і трапіцца паміж імі адна танюсенькая, нібы слаба зашклёная палонка, хмарка. Яе лёгка праб'е і пральее сваё святло сонца. Святло тады мяккае, пяшчотнае, нібы прабачлівае. Нібы не ад сонца яно, а ад хмары. Знутры яе. Нібы ад крыніцы, схаванай у ёй.

Пад такім святлом мне чамусьці заўсёды суцішна і прыемна.

* * *

Адных толькі хлеба, вады і волі дастаткова, каб дзяцінства было залатым.

* * *

О, пахі лесу, о, пахі лугу, о, пахі рэчкі, о, пахі паслядажджавога паветра!.. Колькі ва ўсіх іх пранікнёнасці, пранізлівасці, акрыленасці, нятленнасці!.. З усіх пахаў свету для мяне самыя прыемна-чароўныя — пах бабчынага агарода ў сярэдзіне лета, калі там адно цвіце, другое адцвітае, трэцяе зацвітае; і пах школы пасля рамонту, калі цераз яе вось-вось пройдзе мяжа паміж летам і восенню.

* * *

Праходзім неяк каля латка з марожаным. Каб купіць хоць адну порцыю на дваіх — няма ў нас грошай. Не наракаючы на гэта, мой

старэйшы таварыш Сярожа прапануе слова «мороженое» прачытаць наадварот і інтанацыйна падкрэслівае пры гэтым нашы нібыта сапраўдныя адносіны да марожанага: «Ео не жором!»

Ну й Сярожа! Ну й малайчына! Заўсёды ён знойдзецца!

* * *

Бесхарактарнага і палахлівага суседа Сцяпана Рыгоравіча і яго грубаватую жонку Ірыну Паўлаўну Сярожа называў: цётка Сцяпан і дзядзька Іра.

* * *

У Жоржа Г. — веласіпед; новы, прыгожы, бліскучы. Толькі ж у такога скнары-жмінды не дапрасіцца праехаць. Але Сярожа вымусіў яго, каб ён сам прапанаваў... Падыходзіць Сярожа і неяк нядбайна кідае: «Чаго сабраліся?! Не бачылі нейкую вела-мота-фота-клячу!» Усе раптам дружна зарагаталі. Жорж толькі і змог: «Ніякая не кляча. На, паспрабуй». Сярожа, нібыта нехаця і шкадуючы гаспадара, ускочыў на веласіпед і памчаў у канец вуліцы.

* * *

Футбольны мяч мы, братва незлічоная, куплялі ў складчыну. За час нашых гульняў ён так нас згуртоўваў, што мы ніколі і нікому — падлеткам другіх вуліц і ўскраін — не прайгравалі ў футбол.

* * *

Дзе там каб з чаравікамі! І без іх у нашых хлопцаў ні ў кога не было добрых канькоў. А што былі (не зусім даламаныя «снягуркі», «ластаўкі», «лядзянкі») прымацоўваліся дроцікамі, вяровачкамі, закручваліся палачкамі да валёнак і ботаў. Былі такія, у каго — толькі адзін канёк, а яшчэ і такія, у каго — нічога не было. Аднак усе мы ўмелі катацца на коньках. Вучылі адзін аднаго, дзяліліся канькамі. Не памятаю, каб хто стаяў, калі ўсе катаюцца. Хоць на адным, хай хоць не на сваім, але шпарка кожны коціць па сажалцы.

* * *

Ціхамірна спіць дзядзька Алесь — вандроўнік, геолаг. А ў акне столькі зорак, як ніколі. І як ніколі, яны сёння так блізка да мяне, быццам заблыталіся ў гардзіне. Мо гэта яны прыйшлі з ім ці па яго.

* * *

Перадаюць аднойчы па радыё канцэрт беларускай песні. З талеркі рэпрадуктара гучыць: «Ой, рэчанька, рэчанька, чаму ж ты няпоўная...» Песню гэту любіў я і цяпер люблю асабліва. У той момант я жадаў, каб песня гучала як мага даўжэй. Але, таму што зрабіць гэта немагчыма, я вырашыў спыніць песню і ўключыць яе тады, калі мне захочацца. Заад-

но, думаю, дам паслухаць песню і майму стрыечнаму брату Віцю, якую ён таксама любіў.

І вось я ўзяў і вырваў шнур з вілкай з разеткі — адключыў дынамік ад радыёсеткі. Песня абарвалася, спынілася. Мне ж думалася, што яна проста затрымалася, што варта мне толькі ўключыць радыё, як зноў песня ажыве, загучыць з таго слова, на якім перарвалася.

Праз некаторы час, калі на мой покліч у хату забег Віця, злаўчыўшыся, хутка, амаль вокамгненна і ўставіў вілку ў разетку.

І што ж? Маўчанне. А потым: «Мы перадавалі канцэрт беларускай песні».

Можа, з таго часу, а можа, пазней я зразумеў, што песню спыніць, які б намер у цябе ні быў, — немагчыма.

* * *

Набегла на сонца хмара, і на зямлі вакол зацянілася. Але нядоўга трымаецца цень. Вунь зноў з-за далёкага ўзгорка імчыцца вясёлае сонечнае святло. А цень што ёсць сілы ўцякае ад яго. Мяжу паміж святлом і ценем бачу, назіраю за ёй. Яна бачна і ў небе ад самага сонца да квітнеючага лугу. І ў момант, калі наблізіцца да цябе гэта мяжа, ты злаўчышся і — скок з ценю ды ў самае сонца!

* * *

Ліпеньскім спякотным днём не-не ды і падзьме слабы ветрык, і ты, лежачы на ўзмежку, не зразумееш, не адрозніш, што гэта шу-

2 Зак. 3204

міць над табой — ці то бэзавага колеру жыта, ці то блакітнае неба. А мо то валошкі перашапнуліся ў збажыне?

* * *

Як выспела збажына!.. Здаецца, крыху мацней тупнеш нагой і зазвініць яна ўсімі зернямі, усімі каласамі і перадасць гэты звон бясконцаму небу.

* * *

Цяжка ўявіць сабе, колькі пад зямлёй святла. Вазьмі любы карэньчык, раздзяры яго і ўбачыш, што ён — белы-белы. А колькі такіх карэньчыкаў і карэнняў... І ўвесь год яны — белыя. Значыцца, увесь год ні на хвіліну святло пад зямлёй не знікае. Няхай не суцэльнае, няхай невялічкімі карэньчыкамі ды камячкамі, а пад зямлёй яго бачна-нябачна. Трапляе ж яно туды цераз лісце, галінкі, сцяблінкі, ствалы ўсяго, што расце на паверхні, пад сонцам.

* * *

Па вершалінах дрэў, а потым раптам ніжэй — то тут, то там мільгаціць вавёрка ў хваёвай зеляніне! Так імкліва і гібка можа бегчы і выныраць, уздымаючы пад сабой пясок і афарбоўваючы сябе ў яго колер, толькі раўчуковая вада на ўзгорку, сярод зарасніку, сярод траў...



Сядзім неяк з дзедам на ўзлеску, выбіраем лісцікі з ягад, размаўляем. Раптам амаль побач пачулася песня. Срэбны мужчынскі голас дарыў нам: «Ой, рана на Йвана...» Голас то ўздымаўся над лесам і ляцеў да самага неба, то падаў на лес з самага неба. І песня, і выкананне зачаравалі нас. Але хто спяваў, не бачылі. Спявак праходзіў крокаў за трыста ў лясным гушчары.

Я захацеў збегаць і паглядзець на яго. Позглядам дзядуля загадаў мне заставацца на месцы: навошта палохаць песню?

Так і не ўбачыў я спевака, так і засталося ў мяне адчуванне, што песня можа жыць сама па сабе, як можа дзьмуць вецер ці свяціць сонца незалежна ад людзей.



Убачыўшы лася, ■ знерухомеў ад здзіўлення перад велічным хараством безабароннага гіганта. А мо то быў проста страх? Не! Баяцца яго не было чаго. О, як лёгка і велічна гэты прыгажун трымаў на сваіх рагах неба!



Праменні ранішняга ці вячэрняга сонца, што пранікаюць у гэты гушчар, бы залатыя жэрдачкі і перакладзінкі, якія хтосьці нябачны быццам толькі што выстругаў і перакінуў ад аднаго дрэва да другога і на вялікай вышыні, і не вельмі высока, але і не нізка — амаль над самай галавой...

І хочацца мне падскочыць, ухапіцца рукамі за такую восьператкладзінку і падцягнуцца або ўхапіцца рукамі, пагайдацца на ёй.

* * *

Тры хваробы — адзёр, шкарлятына і дыфтэрыт — абклалі мяне. У адзін з цяжкіх дзён, якія захаваўся ў памяці абрыўкамі, я перажыў сам не ведаю што.

Памятаю, што тануў. Адчуванне бездапаможнасці ўзмацнялася яшчэ тым, што патанаў я не ў вадзе, а ў нечым цвёрдым, амаль што ў камені. А можа, у дрэве ці ў жалезе? Ухапіцца тут за што-небудзь не было магчымасці. Не было сілы, каб хоць як паварушыцца.

І ўсё ж такі нейкім цудам я вынырнуў. А калі вынырнуў — стаў папраўляцца. Плынь жыцця зноў забрала мяне.

* * *

У палаце нас было двое — мой аднагодак, дзесяцігадовы Андрэйка, і я.

Нам станавілася горш, асабліва Андрэю. Мы ўжо не падыходзілі да акна. І ці не таму наша невялікая палата, што на другім паверсе, здавалася нам, пачала павялічвацца. А тут я яшчэ знайшоў, што ўвечары і ўночы ў нас на сцяне разгушкваецца вялізная рука. Больш таго, яна шнырыць, шукае момант ухапіць нас. Я заміраў ад страху. Андрэю не казаў — яму было ўжо не да гэтага. Ад яго не адыходзілі дактары і сёстры.

І вось уначы (гэта была мая самая цяж-

кая, а Андрэева апошняя ноч) я прачнуўся ад мітусні людзей у белых халатах. Яны забіралі Андрэя. Андрэйка маўчаў. Я здагадаўся, што ён памёр. Я заплакаў і пачаў прасіць, каб не пакідалі мяне аднаго ці хаця б не тушылі святло, бо мяне забярэ яна — гэтая вялізная рука. Іван Паўлавіч, наш доктар, зацікавіўся, якая такая гэтая рука. Я расказаў.

І вось мы ўдвух у палаце. Іван Паўлавіч патушыў святло, паглядзеў на сцяну, потым падышоў да акна — глянуў у ноч, потым адышоў — адначасова глянуў на сцяну і за акно і, засмяяўшыся, сказаў: «Гэта ж галінка клёна лашчыцца да цябе сваім ценем, які пасылае сюды святло з ліхтарнага слупа».

Аднак, якая б яна, галінка тая, ні была добрая, я баяўся. Аднойчы яна знікла, і ценю яе не было больш над маім ложкам.

І толькі калі я ўжо хадзіў і часам бегаў, мне захацелася ўбачыць тую галінку і яе цень. Іван Паўлавіч папрасіў санітара нашага аддзялення злазіць на дрэва і адпусціць ад ствала галінку-руку. Прывязаў яе сам Іван Паўлавіч у тую маю цяжкую ноч.

* * *

Як многа вясны ў восені!

У кастрычніцкі пагодлівы поўдзень наляціць толькі вецер — пажоўклая бяроза прашуміць майскім вулеем.

* * *

То імклівыя ручаіны, то звілінкі, то нават невялікую шумную рачулку нагадваюць чароды птушак у асеннім небе. Калі ж раптам яны

апынуцца ля вершаліны высокай бярозы і абагнуць яе і ў момант сядуць на ёй — ты адразу ўспомніш аб вясновым віры.

* * *

Зоркі восеньскага неба — нібы апалае лісце клёнаў і бяроз, каштанаў і асін, калін і рабін. Лісце не можа доўга проста так ляжаць на зямлі; абавязкова наляціць на яго вецер, наляціць і раскідае ва ўсе бакі свету і на неба закіне.

* * *

О, як абрыдлі ўсім восеньскія лужыны... О, як патрэбны ты, марозік — тонкі звон пагодлівага дня.

* * *

Агромністым зліткам срэбра бачыцца мне ў кастрычніку невялікі прыдарожны бярозавы гай. Яго ж былая зеляніна ўпала на зямлю і набыла колер лішайнікаў.

Відовішча пяшчотнае і суровае!

* * *

Расплюшчваю вочы: столь і сцены бялейшыя, чым звычайна, у пакоі святлей, чым было. Хоць лямпачка і не гарыць. Чаму так? Адкуль столькі святла?

Ну вядома ж, з акна: снег выпаў!

* * *

Успамінаю ледастаў і гульні каля сажалкі, калі я спрабаваў прайсці па маладым лё-

дзе. Ногі перастаўляю асцярожна, адначасова як бы ўздымаючы сябе. Не, не ўздымаючы, а падцягваючы ўсяго сябе да плячэй, быццам там у мяне растуць крылы і быццам у той момант, калі трэсне лёд, я змагу ўзляцець.

* * *

Злёгку ўтаптаны снег на вялікім марозе, калі ідзеш, не рыпіць, а, здаецца, гаўкае, як шчаня.

* * *

Зімовымі марознымі начамі гудуць тэлеграфныя правады, гудуць цяжка, манатонна — навярэджана. Чаго і пра што гудуць яны.

Відаць, цяжка ў такія халады перадаваць цеплыню чалавечых сэрцаў. О, колькі папаслухаў я тыя правады: яны віселі амаль над самай дзядулевай хатай.

* * *

На даху сенцаў пад лютаўскім сонцам ляжаў і іскрыўся зусім малады снег. Выпаў ён на досвітку. Але вось наляцеў вецер, падхапіў яго, закруціў, выцягнуў у доўгую палоску, а потым сагнуў у дугу і звесіў яе адным канцом прама на ганак. Пад самыя мае ногі, калі я выйшаў раніцай.

І дакрануўся я рукой да серабрыста-белай зімовай вясёлкі.

* * *

Іду я летнім днём уздоўж безыменнага прытоку нашай рэчкі і раптам бачу на лазо-

вым кусце пажаваны вадой і высахлы на сонцы кавалак паперы.

Я пазнаў яго. Ён быў некалі маім караблікам, якога я пусціў вясной, каб ён даплыў да рэчкі, а то і да самага мора, калі не далей.

* * *

Далёка маё дзяцінства, нібы зоркі. І, нібы зоркі, яно да сябе прыцягвае. І, нібы да зорак, да яго мне не дацягнуцца.

* * *

Цікава было крычаць у бездань калодзежа: «А-а-а!..» Ці ў глыбіню ляснога гушчару: «Ау-у-у!..» І галасы нашы не знікалі, яны вярталіся да нас, афарбаваныя ў таны таямнічасці і чарадзейства.

Няхай жа не знікаюць гукі вады і лесу, зямлі і неба ў нашых сэрцах. Няхай яны вяртаюцца назад.

Няхай заўжды нясуць нам першароднасць і чысціню.

---

**Евгений Сергеевич Гучок**

**ГОЛУБЫЕ ШМЕЛИ**

*Для среднего и старшего школьного возраста*

Минск, издательство «Юнацтва»
На белорусском языке

Рэдактар **А. М. Бяржынскі.** Рэцэнзент **В. Л. Бечык.** Мастак **М. У. Чуднікаў.** Мастацкі рэдактар **М. Р. Казлоў.** Тэхнічны рэдактар **Г. М. Шашко.** Карэктар **Л. С. Мануленка.**

**ІБ № 88**

Здадзена ў набор 10.12.82. Падп. да друку 19.04.83. АТ 08066. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура літаратурная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 1,46. Ум. фарб.-адб. 1,68. Ул.-выд. арк. 1,27. Тыраж 12 000 экз. Зак. 3204. Цана 5 к.

Выдавецтва «Юнацтва» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа.
220005, Мінск, Чырвоная, 23.